ТВ-программа на неделю

№ 230 (1294)

Субота, 8 снежня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

# Народная Воля

Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

### Надвор'е

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, у паўднёва-ўсходніх раёнах невялікі снег, на асобных участках дарог — галалёд. Вецер паўночна-ўсходні, слабы. Тэмпература паветра ў Віцебску — -11...-13, Мінску, Гродне — -8...-10, Брэсце — -7...-9, Магілёве — -9...-11, Гомелі — -6...-8.

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць. 9-га на ўсходзе, 10-га — уначы на паўночным захадзе, удзень — на большай частцы тэрыторыі — снег. Вецер няўстойлівы, слабы. Тэмпература паветра ўначы — -12...-17, пры праясненнях да -20; удзень 9-га — -7...-12, 10-га — -4...-9.

Пейджинговую связь редакции обеспечивает
МОБИЛКОМ
пейджинг-система
(017) 222-46-51
(017) 222-46-52

АКЦЫІ

## АГП вырашыла расцягнуць ланцуг неабыякавых людзей па ўсім свеце

Як мы ўжо паведамлялі, у нядзелю **9 снежня** Аб'яднаная грамадзянская партыя ладзіць чарговую акцыю ў рамках праграмы "Хочам ведаць праўду".

У Мінску ланцуг неабыякавых людзей працягнецца на ўчастку ад плошчы Незалежнасці да Кастрычніцкай плошчы з **15 да 16 гадзін**. Акцыя таксама пройдзе ў 50 іншых гарадах Беларусі, а на наступны дзень 10 снежня — у 9 замежных сталіцах — Кіеве, Вільнюсе, Таліне, Маскве, Варшаве, Берліне, Стакгольме, Бруселі і Амстэрдаме.

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, старшыня АГП:**

— Мэта нашай акцыі — прыцягнуць увагу грамадскасці і міжнароднай супольнасці да палітычных рэпрэсій, якія, на жаль, не спыніліся пасля палітычнай кампаніі пад назвай "Прэзідэнцкія выбары". Мы не хочам, каб сярод партрэтаў з'яўляліся новыя палітычныя ахвяры. А гэта пры цяперашнім рэжыме цалкам верагодна.

**Леанід МАЛАХАЎ, намеснік старшыні мінскай гарадской арганізацыі АГП:**

— Мы разлічваем на тое, што людзі, якія на момант правядзення акцыі апынуцца ў цэнтры горада і якія неабыякавыя да лёсу зніклых і загінуўшых, прымкнуць да нас. Ніхто ў Беларусі не застрахаваны ад рэпрэсій. Сёння чалавек вядзе актыўнае палітычна-грамадскае жыццё, а заўтра з ім можа здарыцца ўсё, што заўгодна.

**Геннадий БЫКОВ, председатель Свободного профсоюза Белорусского:**

— 9 декабря я приду и стану в цепь неравнодушных. Уверен, что встречу там многих людей. Прежде всего я там буду как гражданин, для которого права человека — не пустой звук.

**Сергей КАЛЯКИН, председатель Партии коммунистов Белорусской:**

— Как раз в эти дни наша партия отмечает 10-летний юбилей, и мероприятия по этому поводу мы запланировали давно, пригласили гостей со всей Беларуси. Тем не менее Минская городская партийная организация обязательно примет участие в цепи неравнодушных. Акция необходима, она призвана еще раз напомнить власти о том, что бесследно исчезнувшие люди не забыты и серьезно заниматься их судьбой необходимо. Власти рано или поздно придется дать ответ: живы ли эти люди, и кто виноват, если они погибли?

**Тимофей ДРАНЧУК, координатор движения "Зубр":**

— "Зубр" примет участие в цепи неравнодушных людей. Я считаю, что все партии, организации или движения, называющие себя демократическими, просто обязаны принять участие в этой акции.

И какие бы проблемы у нас в связи с этим не возникали, какие бы репрессии не предпринимали власти — мы не перестанем требовать ответа на волнующие нас вопросы.

**Вінцук ВЯЧОРКА, старшыня Грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэньне":**

— Я ў гэты дзень буду ў адным з рэгіёнаў. Нашы людзі, натуральна, далучацца да акцыі. Нельга дапусціць, каб праблема зніклых разглядалася рэжымам і пэўнай часткай грамадскай думкі як кан'юнктурна-выбарчая. Яна павінна застацца адным з асноўных маральных і юрыдычных пытанняў, якія задаюцца сёння рэжыму. Мне шкада, што большасць беларускіх грамадзян не рэагуе на гучныя справы. Спелым наша грамадства стане толькі тады, на мой погляд, калі для яго стане зразумела, што ў краіне, дзе знікаюць людзі, не можа быць ні свабоды, ні дабрабыту, ні будучыні.

**Алёна ДАШКЕВІЧ.**

ТАК І СКАЗАЎ

## *Колін Пауэл, дзяржаўны сакратар ЗША:*



"Прэзідэнцкія выбары ў Беларусі не адпавядалі міжнародным стандартам. Урад Беларусі праігнараваў рэкамендацыі АБСЕ датычна ўмоў, якія павінны быць выкананыя, каб выбары былі свабоднымі і справядлівымі. Вельмі шкада, што ўрад Беларусі працягвае дзейнічаць так, што ў выніку краіна застаецца па-за межамі агульнаеўрапейскага палітычнага жыцця... Мы будзем працягваць нашу работу з краінамі-сябрамі АБСЕ, каб падтрымаць развіццё сапраўдных дэмакратычных інстытутаў і моцнай грамадзянскай супольнасці ў Беларусі".

*(З выступлення ў Бухарэсце (Румынія) на пасяджэнні міністраў замежных спраў краін—членаў АБСЕ.)*

ДАТА

# Віскулі. 8 снежня 1991 года




### Заявление
#### глав государств Республики Беларусь, РСФСР, Украины

Мы, руководители Республики Беларусь, РСФСР, Украины

— отмечая, что переговоры о подготовке нового Союзного Договора зашли в тупик, объективный процесс выхода республик из состава Союза ССР и образования независимых государств стал реальным фактом;

— констатируя, что недальновидная политика центра привела к глубокому экономическому и политическому кризису, к развалу производства, катастрофическому понижению жизненного уровня практически всех слоев общества;

— принимая во внимание возрастание социальной напряженности во многих регионах бывшего Союза ССР, что привело к межнациональным конфликтам с многочисленными человеческими жертвами;

— осознавая ответственность перед своими народами и мировым сообществом и назревшую потребность в практическом осуществлении политических и экономических реформ, заявляем об образовании Содружества Независимых Государств, о чем сторонами 8 декабря 1991 года подписано Соглашение.

Содружество Независимых Государств в составе Республики Беларусь, РСФСР, Украины является открытым для присоединения всех государств — членов Союза ССР, а также для иных государств, разделяющих цели и принципы настоящего Соглашения.

Государства — члены Содружества намерены проводить курс на укрепление международного мира и безопасности. Они гарантируют выполнение международных обязательств, вытекающих для них из договоров и соглашений бывшего Союза ССР, обеспечивают единый контроль за ядерным оружием и его нераспространение.

**Як вядома, 10 гадоў таму, 8 снежня 1991 года, не стала Савецкага Саюза. У белавежскіх Віскулях тагачасныя кіраўнікі Расіі, Беларусі і Украіны абвясцілі аб стварэнні Садружнасці незалежных дзяржаў (СНД). Што ж на самай справе здарылася ў той час: дзяржаўная здрада ці мужны, патрыятычны крок палітыкаў?**

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ, першы старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:**

— Я думаў перш за ўсё пра Беларусь, пра яе будучыню. У Віскулях мы пакончылі з крывадушнасцю. Мы сказалі: СССР быў фальшывым, давайце зробім наш Саюз рэальным, сугучным інтарэсам усіх рэспублік, усіх народаў... Мы не разбуралі Саюз як супольнасць, як садружнасць народаў. Мы змагаліся з імперыяй, з імперскімі традыцыямі і парадкамі.

**Мария Александровна, пенсионерка:**

— Конечно, измена. Я этих "беловежских зубров", как вы их там называете, повесила бы на столбе — пусть люди ходят, смотрят, пальцем показывают на них...

**Борис ЕЛЬЦИН, первый президент России:**

— Беловежские соглашения означали конец неконтролируемого распада единого государства и начало нового союза народов, объединенных общей судьбой. Идея новой государственности родилась не в один миг, не в моей голове или у Шушкевича, Кравчука. В Беловежье мы вычленили и сохранили идею сосуществования — причем достаточно жестко регламентированного — государств в одном экономическом, политическом, военном пространстве.

Вместо того чтобы тащить за уши республики к подписанию нового документа, надо было показать, что мы уже включили схему объединения, не дав другим возможности долго колебаться и торговаться: хотите — присоединяйтесь, не хотите — ваше право. А потому странно слышать сегодня, что наши действия были направлены на согласованный развал Союза, его внезапное уничтожение.

**Михаил ГОРБАЧЕВ, первый президент СССР:**

— Это была авантюра. От начала до конца. То, что они сейчас говорят в свое оправдание, что они выступали за сохранение Союза, а ведь это главное, не более чем дымовая завеса, под покровом которой скрывались и скрываются совсем иные цели, далекие от государственного, ответственного мышления. Вспомните поведение коммунистов в декабре 1991 года, когда они и в Верховном Совете Белоруссии, и на Украине, и в Российском Верховном Совете (где, кстати, члены КПСС составляли более 80% всех депутатов) голосовали за Беловежские соглашения, которые прямо вели к развалу Союза... Они сорвали процесс эволюционного реформирования СССР и открыли дорогу дезинтеграции. А Ельцин решил использовать шанс, который ему открыл путч, пошел тайно, через интриги, на сговор и развал Союза.

**Станислав БОГДАНКЕВИЧ, первый глава Нацбанка РБ (в 1991 году — заведующий кафедрой денежного обращения Белорусскго государственного института народного хозяйства):**

— Если рассматривать этот вопрос философски — на макроуровне, как мы говорим, то беловежские соглашения — это естественный процесс. Все империи когда-то создавались, но после обязательно разваливались. И можно только удивляться тому, что Российская империя, какой был по сути СССР, продержалась так долго. Кроме того, этот процесс был вызван демократизацией и перестройкой, которые были начаты Михаилом Горбачевым.

Чуть-чуть дали послабление нациям, обществу. И это привело к дискуссиям, к желанию суверенитета, возможности самим решать свои проблемы...

**Егор ЛИГАЧЕВ, член политбюро ЦК КПСС:**

— Необходимо формировать комитеты и группы содействия возрождению союза советских народов, которые могли бы развернуть работу по расторжению беловежских соглашений, пропагандировать идеи интернационализма и достижения СССР. Люди, которые заключили вискулевские соглашения, — предатели...

**Александр ЛУКАШЕНКО:**

— Бездумно совершили преступление, порезав по живому... (29 октября 2001 года).

**Александр ДОБРОВОЛЬСКИЙ, заместитель председателя Объединенной гражданской партии:**

— На следующий день после подписания беловежских соглашений я находился в Москве на Конгрессе молодых политиков. У нас тогда по этому поводу были громкие споры, иногда доходило чуть ли не до драки.

Сейчас можно на все это взглянуть более спокойно, более трезво. Я считаю, что в том виде, в каком был Советский Союз к 1991 году, он уже не мог существовать. Фактически действующего союза не было уже до встречи в Вискулях Шушкевича, Кравчука и Ельцина. Был ли это самый удачный вариант решения проблемы? Сказать сложно... Но, мне кажется, лучше какой-нибудь мирный вариант разрешения кризиса, чем война.

**Леанід КРАЎЧУК, першы прэзідэнт незалежнай Украіны:**

— Тое, што я зрабіў у Віскулях, было выкананнем волі народа. Пасля рэферэндуму, які напярэдадні прайшоў ва Украіне, я і не мог падпісаць нічога такога, што працягвала б існаванне Украіны ў складзе іншай дзяржавы. Рэферэндум быў праведзены па ўсіх дэмакратычных нормах, з еўрапейскімі і айчыннымі назіральнікамі, і фармулёўка не дапускала розначытанняў.

**Падрыхтаваў Алесь СІЛІЧ.**

АДКРЫТЫ ДЫЯЛОГ

# "У тэлефона — галоўны рэдактар..."

*Заснавальнік першай штодзённай незалежнай рэспубліканскай газеты "Народная воля"* **Іосіф Сярэдзіч** *пяць гадзін будзе адказваць на пытанні чытачоў.*

Прыкідваючы планы на 2002 год, журналісты "Народнай волі" разумеюць: у газеце павінны адбыцца вялікія перамены. Каб апраўдаць давер чытачоў, творчаму калектыву трэба падняцца на больш высокую арбіту.

**Якой павінна быць "Народная воля" ў 2002 годзе?**

**Якія тэмы заслугоўваюць першачарговай увагі?**

**Што хвалюе сёння людзей у сталіцы і самых аддаленых вёсках?**

**Каго трэба вывесці "на чыстую ваду"?**

**У якія куточкі чалавечай душы павінны глыбей зазірнуць вопытныя журналісты?**

Адказы на гэтыя і многія іншыя пытанні хацеў бы пачуць ад Вас, шаноўныя сябры, галоўны рэдактар "Народнай волі". Хочаце проста параіцца, расказаць пра нешта асабістае? Калі ласка, размова можа быць самай-самай шчырай...

Словам, заснавальнік і галоўны рэдактар "Народнай волі" выклікае агонь на сябе.

У сераду, 12 снежня, з 12.00 да 17.00 ён выходзіць на прамую сувязь па тэлефоне **206-68-71.**

Калі раптам нехта не зможа дазваніцца, напішыце ліст з паметкай **"ДЫЯЛОГ З ГАЛОЎНЫМ РЭДАКТАРАМ".**

БЕСПРЕДЕЛ

# В Бресте "наезжают" на социал-демократов

Наиболее ярко это проявляется в Брестском государственном университете, ректором которого является член КПБ В.Плетюхов.

Так, члену ЦК БСДП (НГ) А.Левковичу ректором был объявлен необоснованный выговор. Во время официальной беседы в вину ему была поставлена агитация против В.Плетюхова как кандидата в депутаты парламента. Претензий к профессиональным и деловым качествам доцента А.Левковича не было предъявлено.

На заседании совета психолого-педагогического факультета при избрании В.Лазаренкова (члена БСДП (НГ)) на должность старшего преподавателя университета было зачитано письмо ректора, в котором содержалась информация, не касающаяся его научной и профессиональной деятельности, а давалась негативная характеристика на Лазаренкова как руководителя "деструктивной" первичной организации Свободного профсоюза белорусского и ряд других необоснованных обвинений. Однако несмотря на давление ректора члены Совета большинством проголосовали за избрание В.Лазаренкова на должность старшего преподавателя.

Советом географического факультета БрГУ не избран на должность ассистента И.Масловский. На результаты голосования повлияло выступление декана факультета Е.Мешечко, который умышленно исказил факты профессиональной и научной деятельности Масловского. В этот же день Масловский был уволен с работы приказом ректора, несмотря на установленный 10-дневный срок для подачи апелляции в вышестоящий совет. Объективных обоснований согласно "Положению о порядке замещения должностей профессорско-преподавательского состава в высших учебных заведениях РБ" ни советом, ни ректором предъявлено не было.

И.Масловский успешно окончил аспирантуру, за последние пять лет имеет 20 научных публикаций, является участником двух научно-исследовательских тем, получил положительную рекомендацию кафедры для утверждения его в должности ассистента, провел ряд открытых занятий. За период работы в Брестском государственном университете не имел взысканий и каких-либо претензий и замечаний по методике преподавания и содержанию читаемых курсов со стороны коллег и администрации.

На наш взгляд, увольнение И.Масловского обусловлено политическими причинами:

— он являлся заместителем руководителя Брестского областного штаба единого кандидата в президенты Республики Беларусь В.И.Гончарика;

— является заместителем председателя Брестской городской организации БСДП (НГ);

— избран на учредительном собрании председателем Брестского отделения правозащитной организации РОО "Белорусский Хельсинкский комитет";

— активный участник всех избирательных и политических кампаний на протяжении 10 лет.

"Брестская городская организация Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада) выражает свою моральную поддержку и солидарность Игорю Масловскому и всем сторонникам партии, подвергшимся давлению со стороны властей. Мы призываем союзные нам партии и международные организации высказать солидарность по данному факту и донести до внимания общественности своих стран ситуацию с нарушением прав человека в Республике Беларусь", — говорится в специальном заявлении Брестской городской организации социал-демократической партии (Народная Грамада).

**Антон КОРЗУН.**

ВАЙНА

# "Талібан" выкінуў белы сцяг

**Духоўны лідэр талібаў мула Амар прыняў у рэшце рэшт умовы капітуляцыі.**



Мула Амар не толькі абвясціў аб гатоўнасці здаць Кандагар, але і склаў з сябе паўнамоцтвы духоўнага і палітычнага лідэра руху "Талібан". На гэтых умовах афганскі прэм'ер Карзай пагадзіўся адмовіцца ад штурму горада, пайсці на пэўныя палітычныя ўступкі талібам. Згодна з інфармацыяй агенцтва "Афган Ісламік Прэс", "кіраўніцтва "Талібана" вырашыла здаць Кандагар муле Наджыбуле з прычыны таго, што пасля масіраваных бамбардзіровак і асады ў горадзе вельмі шмат параненых і амаль скончыліся прадукты харчавання".

Як паведаміў замежным журналістам амбасадар талібаў у Пакістане Салам Заіф, падзенне Кандагара і намер Амара скласці з сябе паўнамоцтвы фактычна азначаюць канец палітычнага жыцця руху "Талібан".

Паверылі ў хуткую перамогу над праціўнікам і амерыканцы. Пасланнік адміністрацыі прэзідэнта ЗША Джорджа Буша ў Афганістане Рычард Хаас у сваёй бравурнай прамове на Капіталійскім узгорку адзначыў: "Рэжым талібаў больш не існуе... Наша ваенная перамога з'яўляецца базай для іншай дзейнасці, якую мы арганізуем у бліжэйшы час у Афганістане". Уплывовая "Вашынгтон Пост" здзіўляецца, як "хутка дайшоў да калапсу рух, які ўсяго толькі месяц таму кантраляваў больш за 90 працэнтаў тэрыторыі Афганістана".

Аднак, як адзначае газета, капітуляцыя талібаў не азначае канец ваеннай аперацыі Злучаных Штатаў у гэтай краіне. Бен Ладэн застаецца ў жывых і хаваецца недзе на ўсходзе Афганістана. Амерыканская авіяцыя ў паветры, а афганскія партызаны на зямлі прыкладаюць усе намаганні, каб знайсці тэрарыста №1.

Новае кіраўніцтва Афганістана, як паведамляе "Асашыэйтэд Прэс", яшчэ не вызначыла лёс мулы Амара і яго бліжэйшых паплечнікаў. Раней антыталібскія кіраўнікі заяўлялі, што ў выпадку добраахвотнай здачы Кандагара гатовы амніснціраваць радавых талібаў. Па сведчанні амбасадара Заіфа, Амару гарантавана жыццё, яму павінны пакінуць магчымасць застацца ў горадзе пад аховай пуштунскіх плямёнаў.

Нагадаем, што новаму кіраўніку Афганістана Хаміду Карзаю 44 гады, 20 з якіх ён правёў са зброяй у руках. Як кажуць, у Карзая ёсць уплывовыя знаёмыя ў амерыканскай і брытанскай разведках. "Гэта не дзіўна, пуштуна, які свабодна гаворыць па-англійску і ненавідзіць камуністаў, проста абавязаны былі завербаваць", — піша брытанская "Індэпендэнт".

**Сямён САВІЧ.**

ПАМЯЦЬ

## Не забудзем трагедыю Трасцянца!

Запрашаем Вас 9 снежня 2001 года прыняць удзел у адкрыцці ў Касцёле св.Сымона і св.Алены выставы фотаматэрыялаў, дакументаў і мастацкіх твораў "Трасцянец — 60 год трагедыі (1941—2001 гг.)". З мастацкіх твораў будуць выстаўляцца працы Лазара Рана, Алеся Цыркунова, Алы Няхайчык, Жаны Няхайчык.

Ахвяры нацысцкага генацыду і Халакосту, тысячы людзей розных узростаў, нацыянальнасцяў, веравызнанняў і грамадзянства, якія прынялі ў Трасцянцы ў 1941—1944 гадах пакутніцкую смерць і да гэтага часу як належыць не ўшанаваны паводле грамадзянскага чыну ці адпаведных канфесійных абрадаў, будуць спамянуты ў касцёле Святой Імшой і духоўнымі спевамі ў выкананні харавых калектываў дыяцэзіі. Пачатак — аб 11-й гадзіне.

У праграме — выступы даследчыкаў, грамадскіх дзеячаў і сведкаў трасцянецкай трагедыі, прэзентацыя выставы, паказ дакументальнага фільма "Трасцянец" (1995 г., рэж.Ул.Колас).

**Уладзіслаў ЗАВАЛЬНЮК, ксёндз-магістр, пробашч касцёла св.Сымона і св.Алены;**
**Яўген ЦУМАРАЎ, намеснік старшыні ГА "Гістарычнае таварыства "Трасцянец".**

